**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.09, 21.03, 15.54;
Віцебск — 4.53, 20.59, 16.06;
Магілёў — 4.58, 20.52, 15.54;
Гомель — 5.01, 20.44, 15.44;
Гродна — 5.24, 21.19; 15.55;
Брэст — 5.33, 21.11, 15.38.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 9 мая

**ІМЯНІНЫ:**
Ігната, Тамары, Макара, Пафнуція; Дабяслава, Баніфаца.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

14 МАЯ 1992 г. чацвер, № 93 (21871)


# РОЗГАЛАС

## ХТО БУДЗЕ ГАСПАДАРОМ МІНСКАГА АЎТАЗАВОДА?

**Пытанне новых умоў гаспадарання абмяркоўваецца ў калектыве буйнейшага на Беларусі прадпрыемства — Мінскага аўтазавода. У абмеркаванні ўдзельнічаюць і кансультанты Інстытута эканомікі Акадэміі навук РБ.**

Спецыялісты прапаноўваюць завадчанам праводзіць прыватызацыю ў форме акцыяніравання прадпрыемства. Гэта дазволіць вызваліцца ад адміністрацыйнага ўплыву дзяржавы, стварыць магчымасць стабільнага забеспячэння шляхам прадастаўлення акцый асноўным пастаўшчыкам камплектуючых, прыцягнуць дадатковыя сродкі і вырашыць іншыя пытанні.

Аднак, на думку вучоных, стварэнне акцыянернага таварыства патрабуе вырашэння многіх задач, да якіх на МАЗе яшчэ не прыступілі. Напрыклад, не праведзена нават ацэнка рэальнага кошту прадпрыемства. Акрамя таго, для паспяховага правядзення прыватызацыі спецыялісты раяць дырэкцыі завода ўвайсці з прапановай ва ўрад рэспублікі для прыняцця спецыяльнай пастановы па заводу.

Паводле папярэдніх ацэнак, працаўнікі МАЗа могуць атрымаць бясплатна 30 працэнтаў акцый. Каля 15 працэнтаў рэкамендуецца перадаць прадпрыемствам-партнёрам, 20 — у распараджэнне дзяржавы, і яшчэ 20 працэнтаў — замежным інвестарам, калі такія знойдуцца.

## ЕЗДЗІЦЬ БЯСПЛАТНА, НАПЭЎНА, ПРЫЕМНА...

Мяркуецца, што да 1 ліпеня, калі будзе ўведзены бясплатны праезд для інвалідаў і пенсіянераў у грамадскім транспарце, каб пакончыць з разнабоем, пройдзе абмен пасведчанняў — дарэчы, па вялікай просьбе саміх інвалідаў. Будзе распрацаваны і адзіны значок, па якому, з улікам нашых не лепшых традыцый, можна будзе адрозніць чалавека, які ляжыць на вуліцы, — патрэбны яму паслугі медыкаў ці выцвярэзніка.

Адначасова з Міністэрства сацыяльнага забеспячэння рэспублікі паступіла прапанова ў рамках абмену правесці разавае апытанне ўсіх, хто будзе атрымліваць новыя пасведчанні, з мэтай уліку і ўдакладнення некаторых сацыяльных пытанняў.

Паколькі справа гэта даволі ёмістая і складаная, а ідзе яна па лініі ўстаноў сацыяльнага забеспячэння, занятых бясконцымі пераразлікамі пенсій, то да яе будуць падключаны і структуры Беларускага таварыства інвалідаў і Міністэрства аховы здароўя, прадстаўляе якое інстытут працоўнай экспертызы.

**Міраслава СУЛЬДЗІНА.**
**(БелаПАН).**

## ДА СУСТРЭЧЫ Ў НАРВЕГІІ

**«Чарнобыль вачамі дзяцей» — так называлася вялікая выстаўка малюнкаў, падрыхтаваная юнымі пінчанамі.**

Знаходзячыся ў службовай камандзіроўцы ў Нарвегіі, народны дэпутат Беларусі Анатоль Волкаў прапанаваў гэтыя дзіцячыя работы адной з мясцовых хрысціянскіх дабрачынных арганізацый. Выстаўка выклікала ў нарвежцаў вялікую цікавасць. Тут жа было вырашана прадаць малюнкі з аўкцыёна, а на выручаныя грошы запрасіць групу аўтараў у Нарвегію на адпачынак.

Вынікам гэтай акцыі стала афіцыяльнае запрашэнне трыццаці пінскім школьнікам, якія маюць захворванні шчытападобнай залозы, 5 чэрвеня прыбыць у Осла. На працягу месяца яны будуць праходзіць курс лячэння і аздараўлення ў адным з лепшых пансіянатаў краіны — на марскім узбярэжжы. Усе расходы, у тым ліку і транспартныя, нарвежцы бяруць на сябе.

## ГРЫБОЎ З БАМБАСХОВІШЧА НЕ ЖАДАЕЦЕ?

**МАГІЛЁЎ (А. Дук). Прадпрымальнікі горада напоўнілі мірным зместам такі помнік «халоднай вайны», як бамбасховішча. У іх пачалі вырошчваць грыбы-вешанкі. Адзін ураджай са сховішча прыносіць больш тоны смачных грыбоў, а кілаграм іх каштуе 60 рублёў.**

## НАДБАЎКІ ДА ПЕНСІЙ ДАЕ ЗАВОД

**На Мінскім трактарным заводзе пачало дзейнічаць палажэнне аб надбаўках да пенсій працуючым пенсіянерам — былым працаўнікам прадпрыемства.**

Зараз гэтай катэгорыі сацыяльна неабароненых людзей за кожны поўны адпрацаваны год на заводзе штоквартальна будзе выплачвацца надбаўка ў памеры 25 працэнтаў ад мінімальнай пенсіі, вызначанай урадам Рэспублікі Беларусь. Гэтыя выплаты вызначаны ў залежнасці ад стажу работы на МТЗ, але ён не павінен быць менш за 15 гадоў для жанчын і 20 — для мужчын. У гэты працоўны стаж уключаецца таксама работа ў прафсаюзных, партыйных і камсамольскіх арганізацыях аб'яднання, у заводскіх бібліятэцы, медсанчастцы і санаторыі-прафілакторыі, калі прыём на работу ў гэтыя арганізацыі ажыццяўляўся ў парадку пераводу.

**Алег ПРАЦЬКО.**

## НЕ ВЕР ВАЧАМ СВАІМ

**Калі чытаеш рэкламныя аб'явы, размаўляеш са знаёмымі, міжволі прыходзіць думка: адна палова жыхароў рэспублікі працуе ў малых прадпрыемствах, а другая рыхтуецца туды пайсці. Але факты гавораць іншае. У Беларусі на пачатак 1992 года органы статыстыкі вялі назіранне за 3.375 такімі прадпрыемствамі. Амаль палова іх — у Мінску. У кожнай з абласцей сярэдняя лічба малых прадпрыемстваў каля 300. А працуючых там (разам з сумяшчальнікамі) — 80 тысяч чалавек.**

Найбольшая колькасць малых прадпрыемстваў сканцэнтравана ў прамысловасці (818), будаўніцтве (863), навуцы (602), гандлі і грамадскім харчаванні (190). Сельская гаспадарка, транспарт, бытавое абслугоўванне пакуль, можна сказаць, толькі прыглядаюцца. Аб'ём рэалізаванай прадукцыі і паслуг склаў больш чым 3 мільярды рублёў. Сама па сабе лічба вельмі ўражвае, але калі яе супаставіць з агульным аб'ёмам вытворчасці тавараў народнага ўжытку, то гэта — мізэр —усяго 0,8 працэнта.

І тады ўзнікае такое крамольнае пытанне: няўжо шматлікія камерцыйныя ларкі, кіёскі, магазіны «заганяюць» нам тавары, зробленыя на дзяржаўных прадпрыемствах? Тым больш, што і сярод саміх малых прадпрыемстваў трэцяя частка іх — гэта прадпрыемствы з дзяржаўнай формай уласнасці.

**М. БАЛАШОЎ.**

## ЛОПНУЛА ЦЯРПЕННЕ НАСТАЎНІКАЎ

**ГОМЕЛЬ (У. Пернікаў). Калі настаўнікам СШ № 56 своечасова не будуць выплачваць зарплату і не павысяць яе да сярэдняга ўзроўню зарплаты рабочых і служачых абласнога цэнтра, не выплацяць за студзень—красавік па 3.000 рублёў, якія былі недададзены ў сувязі са зніжэннем пакупной здольнасці грошай, яны забастуюць ужо 14 мая.**

**— Наша цярпенне лопнула, — тлумачыць сітуацыю старшыня забасткома школы дэпутат гарсавета Алег Грамыка.— Мы спадзяёмся, што гэтыя патрабаванні падтрымае большасць настаўнікаў горада.**

## АНГЛІЧАНЕ ШТУРМУЮЦЬ ПАРАВОЗЫ

АСІПОВІЧЫ. **(І. Сцяпура).** Як вы думаеце, чым знакаміты гэты горад? Так-так, тут нямала гістарычных месцаў. Але на гэты раз не яны прыцягнулі ўвагу чыгуначнікаў з прадмесця Лондана, а звычайныя паравозы лакаматыўнага дэпо, многія з якіх ужо даўно адслужылі свой век і стаяць як рэліквіі. І адкуль даведаліся аб гэтым англічане? Але як бы там ні было прыехалі яны ў Асіповічы, каб паглядзець на паравозы, праверыць іх надзейнасць і пракаціцца ў Жлобін. Але не такія англічане людзі, каб ехаць у далёкую дарогу з-за нейкіх там дробязей. Відаць, у наступны свой прыезд яны заключаць дагавор і выкупяць некалькі паравозаў, якія ім вельмі спадабаліся і яшчэ паслужаць.

## ЧАЭС-ІНФОРМ

**Паведамляе аддзел знешніх сувязей Чарнобыльскай АЭС.**

**Інфармацыя на 8 гадзін раніцы 13 мая.**

Першы энергаблок. У асноўным завершаны планавы капітальны рамонт. Блок у рэжыме чакання настройкі запорна-рэгулюючых клапанаў.

Другі энергаблок у рэжыме зняцця з эксплуатацыі.

Трэці энергаблок на планавым капітальным рамонце.

Стан канструкцыі і аб'ектаў укрыцця адпавядае нормам, устаноўленым пры яго будаўніцтве.

Парушэнняў радыяцыйнага стану, правілаў і нормаў эксплуатацыі няма.



**«У ТАТЫ СЁННЯ ВЫХАДНЫ»**

— так назваў сваю работу малады фотааматар з Мінска Аляксандр Анташкевіч. На яго здымку старшы сяржант міліцыі Ігар Жукаў з дачкой Лізай.

# У Прэзідыуме Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

Пад старшынствам В. Ф. Кебіча ў Доме ўрада адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Савета Міністраў Беларусі. Заслухана пытанне «Аб задачах па забеспячэнню ўстойлівай работы народнай гаспадаркі рэспублікі ў асенне-зімовы перыяд 1992—93 гадоў». З дакладам выступіў міністр энергетыкі Беларусі В. В. Герасімаў, які прааналізаваў работу паліўна-энергетычнага комплексу ў мінулы асенне-зімовы перыяд, выклаў асноўныя напрамкі далейшай дзейнасці.

На сённяшні дзень разрыў паміж патрэбнасцямі рэспублікі ў энергетычных магутнасцях і рэальнымі магчымасцямі складае 1.345 мегават. Становішча ўскладняецца рэзкім ростам цэн на энерганосьбіты, асабліва на нафту. У гэтай сітуацыі, на думку дакладчыка, трэба ісці на расшырэнне магутнасцей ужо існуючых электрастанцый, шукаць новыя крыніцы атрымання энергіі. Толькі ў гэтым годзе запланавана ўвесці ў дзеянне энергаблок на Мінскай ЦЭЦ-4, энергетычны кацёл на Мазырскай ЦЭЦ, лінію электраперадачы напружаннем 750 кВт Смаленская АЭС — падстанцыя «Беларуская» з расшырэннем падстанцыі, шэраг іншых аб'ектаў.

Пры абмеркаванні даклада Старшыня Савета Міністраў В. Ф. Кебіч падверг крытыцы работу паліўна-энергетычнага комплексу за яўна недастатковыя намаганні па энергазберажэнню, звярнуў увагу на неабходнасць больш шырокага выкарыстання газу як па эканамічных, так і экалагічных меркаваннях. Геалагічным службам рэспублікі даручана актывізаваць разведку карысных выкапняў, асабліва энерганосьбітаў. Пасля абмеркавання Прэзідыум адобрыў увядзенне адзінага тарыфу на электраэнергію для ўсіх абласцей Беларусі.

Па гэтаму пытанню прынята адпаведная пастанова.

З дакладам па другім пункце парадку дня — «Аб выніках пераходу на свабоднае фарміраванне аптовых, закупачных і рознічных цэн і іх уплыве на фінансава-эканамічныя паказчыкі галін народнай гаспадаркі рэспублікі (па выніках за студзень — сакавік 1992 года)»— выступіў намеснік старшыні Дзяржэканомплана У. І. Міхасёў. Адзначана, што ва ўмовах пераходу да рынку дзяржава вымушана адмаўляцца ад шырокамаштабнага адміністрацыйнага цэнарэгулявання і перадаваць гэтыя паўнамоцтвы гаспадарчым суб'ектам, незалежна ад форм уласнасці. Вынікам гэтага і стала выбуховае праяўленне інфляцыі, выкліканай празмерна завышанымі цэнамі з боку вытворцаў на рэалізуемую прадукцыю, рэзкім скачком заработнай платы. Так, за першы квартал аптовыя цэны ў параўнанні з канцом мінулага года ўзраслі больш чым у 10 разоў. Асабліва на прадукты вытворча-тэхнічнага прызначэння, выпуск якіх знаходзіцца ў прамой залежнасці ад узроўню цэн на пастаўляемыя ў рэспубліку энерганосьбіты, сыравіну, матэрыялы. З-за рэзкага росту цэн на прамысловую прадукцыю аказаўся парушаным цэнавы парытэт паміж прамысловасцю і сельскай гаспадаркай.

У цэлым значнае зніжэнне ўсіх сацыяльна-эканамічных паказчыкаў у першым квартале прызнана заканамерным фактарам. Менавіта на гэты час і прыйшоўся пік росту цэн. Яны, паводле прагнозаў спецыялістаў, і далей будуць расці, але ўжо больш плаўна пад уплывам антыінфляцыйнай палітыкі і ў меншых размерах у параўнанні з іншымі краінамі СНД. Дарэчы, цэны ў рэспубліцы на многія тавары і сёння істотна ніжэйшыя, чым у нашых суседзяў.

Пасля даклада У. І. Міхасёва разгарнулася ажыўленае, зацікаўленае абмеркаванне, своеасаблівая «мазгавая атака». І прэм'ер-міністр, і ўдзельнікі пасяджэння вылучылі шэраг канструктыўных прапаноў, накіраваных на абарону насельніцтва рэспублікі ад інфляцыі і росту цэн. У прыватнасці, В. Ф. Кебіч прапанаваў смялей ліквідаваць лішнія перадатачныя звенні на шляху тавару ад вытворцы да спажыўца, шырэй уводзіць фірменны гандаль, разгледзець магчымасць павышэння штрафных санкцый супраць тых вытворцаў, якія неапраўдана ўзнімаюць цэны на сваю прадукцыю. Для падтрымкі цэнавага парытэту паміж горадам і вёскай ім вылучана ідэя індэксацыі цэн на сельгаспрадукцыю ў залежнасці ад іх узроўню ў прамысловасці.

Прэзідыум Савета Міністраў абмеркаваў таксама і некаторыя іншыя пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

# Ці будзе ўрад прыслухоўвацца да няўрадавых арганізацый?

**Гэта, безумоўна, у першую чаргу залежыць ад таго, наколькі аўтарытэтнай з'яўляецца тая або іншая арганізацыя ці асацыяцыя, наколькі яе меркаванне здольна паўплываць на ход прыняцця важных рашэнняў урадам, парламентам.**

Дык вось, днямі ў Мінску прайшоў устаноўчы сход нацыянальнага Цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад». Згодна з яго статутам, Цэнтр з'яўляецца няўрадавай арганізацыяй, якая не ставіць сваёй галоўнай мэтай атрыманне прыбытку, а будзе імкнуцца аб'ядноўваць у сваіх радах вядучых палітыкаў, прадпрымальнікаў, кіраўнікоў дзяржпрадпрыемстваў, журналістаў, юрыстаў, вучоных, экспертаў.

Навошта? Каб сканцэнтраваць іх намаганні на стварэнні аптымальных сацыяльна-палітычных, эканамічных і іншых перадумоў для пераходу да рынку, інтэграцыі Беларусі ў сусветную эканамічную прастору.

Якім чынам? Шляхам распрацоўкі на альтэрнатыўнай аснове канцэпцый і мадэляў рыначнай эканомікі, законапраектаў і рэкамендацый для органаў выканаўчай і заканадаўчай улады. Сярод задач Цэнтра ёсць вельмі цікавыя, напрыклад, стварэнне нацыянальнага бізнес-клуба закрытага тыпу ці, скажам, адкрыццё на базе дзяржаўнага тэлеканала з дапамогай замежных спонсараў студыі інфармацыйна-адукацыйных праграм, абмен спецыялістамі і экспертамі з Акадэміяй эканамічнага супрацоўніцтва «Усход — Захад» (ФРГ).

Сярод праектаў, якія прапаноўвае Цэнтр, даследаванне і аналіз актуальных праблем развіцця адносін паміж краінамі Еўропы і Беларуссю.

Планы, як бачым, напалеонаўскія. І дай Бог здзейсніцца ім у поўным аб'ёме. А пакуль адзначым, што ідэю стварэння Цэнтра падтрымалі як палітыкі старэйшага пакалення (напрыклад, былы Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. Таразевіч), так і маладыя аўтарытэтныя дзеячы (як народны дэпутат Беларусі Д. Булахаў), высокапастаўленыя прадстаўнікі ўрада, навукоўцы. Кінулася ў вочы шырокае прадстаўніцтва на ўстаноўчым сходзе лідэраў біржаў, камерцыйных банкаў, дзелавых колаў рэспублікі. Свой удзел у ім яны абумовілі сваёй зацікаўленасцю ў тым, каб знайсці прамыя выхады на дзяржаўныя структуры, мець магчымасць уплываць на іх рашэнні і г. д.

Прэзідэнтам Цэнтра стратэгічных ініцыятыў выбраны малады здольны палітолаг, кандыдат філасофскіх навук спадар Анатоль Майсеня.

**Леанід ТУГАРЫН.**

# *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## АБ УВЯДЗЕННІ Ў ДЗЕЯННЕ ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ЖЫЛЛЁВАГА ФОНДУ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» з 1 ліпеня 1992 года.

2. Устанавіць, што раней прынятыя заканадаўчыя акты дзейнічаюць у той частцы, у якой не супярэчаць гэтаму Закону.

3. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

да 1 чэрвеня 1992 года прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапанову аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь»;

да 1 ліпеня 1992 года прыняць неабходныя рашэнні, якія забяспечваюць рэалізацыю Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь», прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам, забяспечыць перагляд і адмену выканкомамі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі і ведамствамі Рэспублікі Беларусь іх нарматыўных актаў, што супярэчаць гэтаму Закону.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь распрацаваць парадак выдзялення грамадзянам Рэспублікі Беларусь доўгатэрміновага крэдыту на будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў на льготных умовах. Па пытаннях, якія патрабуюць заканадаўчага вырашэння, унесці адпаведныя прапановы ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

5. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у тэрмін да 1 ліпеня 1992 года распрацаваць нацыянальную праграму па задавальненню патрэбнасцей у жылых памяшканнях грамадзян Рэспублікі Беларусь і прадставіць яе на разгляд у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

6. Выканаўчым камітэтам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемствам, аб'яднанням, арганізацыям забяспечыць насельніцтва аператыўнай і даступнай інфармацыяй аб парадку і ўмовах набыцця жылля ва ўласнасць, правесці неабходныя арганізацыйныя меры (стварэнне агенцтваў па прыватызацыі жылых памяшканняў), якія дазваляюць бесперашкодна ажыццявіць перадачу і продаж жылля ва ўласнасць па зваротах грамадзян.

7. Выканаўчым камітэтам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў забяспечыць выдзяленне грамадзянам Рэспублікі Беларусь ва ўстаноўленым парадку зямельных участкаў, будаўнічых матэрыялаў, павялічыўшы аб'ёмы іх выпуску за кошт развіцця базы будаўнічай індустрыі шляхам садзейнічання арганізацыі акцыянерных, арэндных, кааператыўных, малых і сумесных прадпрыемстваў па вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і прадметаў домаўпарадкавання, а таксама стварэнне ў раёнах індывідуальнай забудовы сацыяльна-эканамічнай і інжынернай інфраструктуры.

8. Выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў перагледзець свае рашэнні, якія датычацца вызначэння статуса інтэрнатаў, і прывесці іх у адпаведнасць з жыллёвым заканадаўствам.

9. Вызваліць ад выплаты дзяржаўнай пошліны пры правядзенні прыватызацыі жыллёвага фонду, згодна з гэтым Законам, за сведчанне перадачы грамадзянам кватэр ва ўласнасць.

10. Грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія прыватызавалі жыллё па Пастанове Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 22 лютага 1991 года № 67 «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Палажэнне аб продажы грамадзянам кватэр у асабістую ўласнасць і аплаце расходаў на іх утрыманне і рамонт у Беларускай ССР», памяншаецца жыллёвая квота на вартасны эквівалент прадастаўленых ім ільгот.

11. Устанавіць, што наймальнікі жылых памяшканняў у дамах калгасаў і іншых прадпрыемстваў і арганізацый, заснаваных на калектыўных формах уласнасці, маюць права прыватызаваць займаемыя жылыя памяшканні пры згодзе ўласніка і на ўмовах, якія вызначаюцца ўласнікам.

12. Устанавіць, што з моманту прыняцця гэтай Пастановы да ўступлення ў сілу Закона «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь»:

прыватызаваныя жылыя памяшканні не могуць быць прададзены, падораны;

уласнікі прыватызаваных жылых памяшканняў штомесячна ўдзельнічаюць у фінансаванні долі затрат, звязаных з эксплуатацыяй і рамонтам месцаў агульнага карыстання дома, яго канструктыўных элементаў, інжынерных сістэм, утрыманнем прысядзібных тэрыторый, адпаведна з займаемай імі агульнай плошчай у межах дзеючай кватэрнай платы.

13. Бязвыплатна (з улікам жыллёвай квоты, сумы квот) перадаюцца жылыя памяшканні пры знос іх на 60 працэнтаў і вышэй, якія займаюць грамадзяне Рэспублікі Беларусь у аднапавярховых жылых дамах незалежна ад памеру.

14. Расшырэнне ў параўнанні з дзеючым заканадаўствам на момант прыняцця гэтага Закона кола асоб, якім жылыя памяшканні могуць прадастаўляцца бязвыплатна, ажыццяўляецца толькі па рашэнню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

15. Кантроль за выкананнем гэтай Пастановы ўскласці на Камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях архітэктуры, будаўніцтва, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і жыллёва-камунальнай гаспадаркі сяла і горада.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

23 красавіка 1992 г. г. Мінск.

# Закон Рэспублікі Беларусь
# Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь

Гэты Закон вызначае эканамічныя, прававыя, сацыяльныя ўмовы і парадак прыватызацыі дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Ён накіраваны на стварэнне ўмоў для ажыццяўлення права грамадзян на свабодны выбар спосабу задавальнення патрэбнасцей у жыллі, а таксама на забеспячэнне эфектыўнага выкарыстання і ўтрымання жыллёвага фонду.

## РАЗДЗЕЛ І. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1.** Пад прыватызацыяй жыллёвага фонду разумеецца набыццё ва ўласнасць займаемых грамадзянамі жылых памяшканняў у дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду.

**Артыкул 2.** Асноўныя прынцыпы прыватызацыі жылля:

бязвыплатная перадача грамадзянам Рэспублікі Беларусь дзяржаўнага і грамадскага жылля ў парадку, устаноўленым гэтым Законам;

узаемасувязь прыватызацыі з рашэннем жыллёвай праблемы;

добраахвотная аснова;

спалучэнне платнага і бязвыплатнага характару;

роўныя правы ўсіх грамадзян Рэспублікі Беларусь на ўдзел у прыватызацыі жыллёвага фонду;

галоснасць, дзяржаўны і грамадскі кантроль за працэсам прыватызацыі.

## РАЗДЗЕЛ ІІ. СУБ'ЕКТЫ І АБ'ЕКТЫ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**Артыкул 3.** Суб'ектамі прыватызацыі з'яўляюцца грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а таксама замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 4.** Аб'ектамі прыватызацыі з'яўляюцца жылыя памяшканні ў дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду (жылыя дамы і жылыя памяшканні, якія належаць дзяржаве, калгасам і іншым кааператыўным арганізацыям, іх аб'яднанням, прафсаюзным і іншым грамадскім арганізацыям).

**Артыкул 5.** Не падлягаюць прыватызацыі жылыя памяшканні ў інтэрнатах, а таксама дамы і кватэры, што з'яўляюцца помнікамі гісторыі і культуры, службовыя жылыя памяшканні.

Не падлягаюць прыватызацыі пакоі ў кватэрах, заселеных некалькімі наймальнікамі. Грамадзяне, якія пражываюць у такіх кватэрах, набываюць права на прыватызацыю ўсёй кватэры толькі ў выпадку вызвалення яе іншымі наймальнікамі.

**Артыкул 6.** Валоданне, карыстанне і распараджэнне зямельнымі ўчасткамі, на якіх размешчаны прыватызаваныя жылыя дамы з прыдамавымі тэрыторыямі, ажыццяўляюцца ў парадку і на ўмовах прадугледжаных заканадаўчымі актамі аб зямлі.

## РАЗДЗЕЛ ІІІ. ПАРАДАК ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ЖЫЛЛЯ

**Артыкул 7.** Для набыцця ва ўласнасць займаемай кватэры ў доме дзяржаўнага або грамадскага жыллёвага фонду грамадзянін з пісьмовай згоды ўсіх пражываючых з ім паўналетніх членаў сям'і падае заяву па месцы жыхарства ў выканаўчы камітэт мясцовага Савета народных дэпутатаў або адміністрацыі прадпрыемства, аб'яднання, арганізацыі, у веданні якіх знаходзіцца жылы дом. Члены сям'і, якія далі згоду на прыватызацыю жылля, захоўваюць права карыстання гэтым жылым памяшканнем. Заява павінна быць разгледжана не пазней чым у двухмесячны тэрмін.

Набыццё ва ўласнасць незаселенай або вызваляемай кватэры таксама робіцца па пісьмовай заяве грамадзяніна ў такім жа парадку.

**Артыкул 8.** Прыватызацыя жылля ажыццяўляецца мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў, іх выканаўчымі і распарадчымі органамі, а таксама органамі кіравання прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый, у веданні якіх знаходзіцца жыллёвы фонд.

**Артыкул 9.** Прыватызацыя жыллёвага фонду ажыццяўляецца на платнай, бязвыплатнай або змешанай аснове.

Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, набываюць жылыя памяшканні толькі на платнай аснове.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

# Эфект Антэя,

## або Калі навука пойдзе туга, паможа бацькава папруга?..

**Адразу прызнаюся: папулярны, на мой погляд, у народзе тэзіс песняра наконт папругі не быў падтрыманы ў аўдыторыі, у якой я апынуўся некалькі дзён назад. Напачатку падумалася: інтэлігенцікі рафінаваныя, што з іх возьмеш? Але «інтэлігенцікі» сваю пазіцыю адстойвалі прафесіянальна. Маўляў, у народзе ў павазе заўсёды былі словы, жэст, асабісты прыклад, а не зубатычына. «Не праймі кап'ём, праймі языком».**

**Два дні ў Мінску працаваў унікальны клуб. Упершыню афіцыяльная педагогіка праявіла цікавасць да... педагогікі народнай. «Унё як!» — скажа дасціпны чытач і будзе мець рацыю. Ёсць чаму здзіўляцца. Гэтулькі дзесяцігоддзяў яе ў асноўным ігнаравалі, цяпер жа знялі капялюш. А ўрэшце, усё лагічна.**

Эфектам Антэя назваў становішча, у якім апынулася афіцыяльная педагогіка, адзін з яе «жрацоў» — старшыня рэспубліканскага педтаварыства Міхаіл Лазарук. Памятаеце, антычны волат быў непераможным, пакуль Геракл не адарваў яго ад зямелькі-маці. Школа даўно страціла сувязь з нацыянальнай глебай, адарвалася ад народнага педагагічнага вопыту. Народнае разумелася абстрактна. Адсюль непавага да роднай мовы, да нацыянальнай культуры ўвогуле, аслабленне эстэтычных і этычных прынцыпаў, страта пачуцця сацыяльнай адказнасці за ўсё, што робіцца.

Прабачце, але гэта цытата з Лазарука. Моўлена, канечне, слушна, але абяцаю надалей абыходзіцца без слоўных Гімалаяў.

Міхаіла Арсенцьевіча калегі падтрымалі. Усе згадзіліся, што выхоўваць сёння цяжка. Зруйнаваны ідэалы, людзям на адной шостай частцы сушы спакваля ўбілі ў галаву думку аб іх непаўнацэннасці. Былыя дзіцячыя і маладзёжныя арганізацыі, якія добра-такі дапамагалі настаўніку, распаліся, новых няма... Навукоўцы і настаўнікі-практыкі, што сабраліся ў інстытуце культуры з усёй рэспублікі, хоць нейкую гарантыю адраджэння беларускай нацыянальнай школы бачаць менавіта ў вяртанні да народнай педагогікі.

Шмат спрачаліся, што гэта такое. Здаецца, бліжэй за ўсіх да ісціны была Тамара Шаронава, якая расказала зусім кароценькую прытчу. Унук прынёс паміраўшай ад голаду бабулі тры бульбіны з чужога поля. «Ты спытаў дазволу ўзяць іх?» — пачуў ад старой. — «Не». — «Тады мне лягчэй памерці». І памерла.

Ці трэба тлумачыць яшчэ, што такое народная педагогіка? Яе сутнасць перададзена вельмі дакладна.

Тамара Рыгораўна сцвярджае, што гэтую асноватворную ў хрысціянскай маралі прытчу ўпершыню расказаў свету Песталоцці. Можа яно і так, хаця асабіста мне думаецца, што яна магла вырасці і на мясцовай глебе. Наша гісторыя падрыхтавала багатую аснову для такіх вось высокіх праяў чалавечага духу. Пасляваенныя хлапчукі з вёскі Дулебы Бярэзінскага раёна на ўсё жыццё запамяталі першую мірную сяўбу. Коней не мелі, і плуг цягнулі жанкі. А за плугам ішоў Васіль Шмарлоўскі, тады адзіны на ўсю вёску мужчына. У яго не было абедзвюх ног, і ён пераступаў па раллі на пратэзах. Калі вам даводзілася калі-небудзь хадзіць за плугам, вы ведаеце, як гэта нялёгка. У Аляксея Марэсьева была свая вышыня, у Васіля Шмарлоўскага — свая.

Справа нават не ў такіх вось асобных прыкладах, якія пры вялікім жаданні можна аднесці да разраду выключэнняў. Возьмем крыху шырэй — сям'ю. Беларуская сялянская сям'я заўсёды вызначалася сваёй... ну, скажам так, педагагічнасцю. Гістарычны факт: да канца XVIII стагоддзя бытавала на Беларусі «дзядзькаванне». Гэта калі сына зямельнага арыстакрата, наследніка ў 2—3 гады ад роду аддавалі ў сялянскія сем'і, дзе ён да юнацкага ўзросту спасцігаў тайны земляробства, навуку жыцця і дух роднага народа. Во дзе была, аказваецца, акадэмія.

Удзельнікі дыскусіі не адкрывалі адзін другому Амерык. Мы таксама не будзем іх адкрываць і, пакінуўшы метадычныя тонкасці спецыяльным выданням, адзначым толькі некаторыя з багатага арсенала сродкаў, якімі валодае народная педагогіка. Пачынаецца яна, прабачце за банальнасць, з калыханкі. Гэты першы паэтычны твор, звернуты да маленькага чалавека, — той фундамент, на якім у далейшым будуецца эстэтычны свет дзіцяці.

За першым матчыным «люлі, люлі, люлі» стаіць яго вялікасць Фальклор. Хто з нас не любіў «слухаць ад старца сівога прашчураў слынных, асілкаў, герояў прыгоды?» Казкі, паданні, прыказкі — колькі мудрасці народнай сабрана ў іх просценькай форме. А ці часта мы расказваем іх сваім і чужым дзецям? Аб гэтым гаварылі многія ўдзельнікі сустрэчы.

А масавыя народныя святы, рытуалы, абрады? Тут, здаецца, і тлумачыць доўга не трэба. У каго па-добраму не сцепанулася душа на Купалле, калі дзяўчаты спявалі вакол вогнішча «Ой, рана на Йвана»... Хіба ж не такімі сцяжынкамі прыходзіць яна, любоў да роднага краю?

Як гэта ні дзіўна на першы погляд, вялікі выхаваўчы зарад утрымліваецца ў дзіцячых гульнях. У многім мадэлюючы жыццёвыя сітуацыі, яны часта падказваюць і прымальны выхад з іх. Лепшыя педагогі даўно знайшлі, якім чынам падвесці дзіця да сур'ёзнай справы, — праз гульню. У тых жа Дулебах, у мясцовай школе, на вялікіх перапынках вучні не кураць па завуголлі, але ж і не займаюцца аэробікай. Старэйшыя аддаюць перавагу народным гульням, малодшыя, пачаткоўцы, водзяць карагоды: «А мы сеялі, сеялі лён, а мы сеялі, прыгаварывалі...»

Адзін з пастулатаў, якія прапаведуюць тутэйшыя настаўнікі, — дзеці павінны жыць жыццём бацькоў. Таму вучні гадуюць цялят і гусей. Плятуць на продаж кашы. За сваю працу атрымліваюць грошы. Маюць працоўныя кніжкі. І маюць нешта большае — жыццёвы вопыт, вопыт **Працы.** А яшчэ... Плесці кошыкі і лапці — сувенірныя, з аборкамі—іх вучаць два вясковыя дзяды. Памяркоўныя, мудрыя. Дзеці спачатку ўхмыляліся, калі бачылі, як яны здымаюць перад настаўнікамі шапку і вітаюцца першымі. А потым прыгледзеліся: дзяды не жартуюць, яны сапраўды ставяцца да іх настаўнікаў вось так, вельмі паважліва... Гэта таксама вопыт — людскасці. Народная педагогіка ў чыстым выглядзе. Як і штотыднёвыя пропаведзі 98-гадовай сялянкі, якая выхавала 16 дзяцей, — аб жыцці.

І яшчэ адзін тэзіс, падмацаваны прыкладам з жыцця той жа малакамплектнай вясковай школы (яе вопыт быў найбольш яскрава прадстаўлены на сустрэчы. Гэта якраз сведчыць аб слабай распрацаванасці напрамку). Дык вось, тэзіс. Народная педагогіка не толькі заўсёды грунтавалася на філасофіі здаровага сэнсу, але і на векавых гуманістычных традыцыях, яна заўсёды была міласэрнай. У Дулебах пры школе ёсць невялічкі дзіцячы дом. Дзяцей-сірот на выхадныя дні часта разбіраюць па сем'ях. Асабліва шмат просьбаў, расказаў дырэктар М. Грудзінскі, звычайна перад святамі. «Мікалай Уладзіміравіч, а хай да мяне Дзіма Кучко на Вялікдзень прыйдзе, пачастуецца чырвонымі яйкамі...» Ведаюць вяскоўцы дзетдомаўцаў паіменна. Не, іх у сем'ях не залашчваюць. Даводзіцца нават працаваць. Але малым падабаецца. Настаўнікам — таксама. Яны бачаць, як станоўча гэта ўплывае на дзяцей, як праходзіць уласцівая сённяшняму дню азлобленасць у дарослых людзей, менш становіцца чэрствасці, болей — шчырасці ва ўзаемаадносінах.

Кажуць, лепш за ўсё выхоўвае акружэнне. У адносінах з ім пераймаюцца найбольш агульныя рысы нацыянальнага характару, нормы паводзін. Тады цікава, у якое асяроддзе трапляюць, нарадзіўшыся, нашы дзеці? Педагогі-спецыялісты (не я) лічаць, што «сярэднестатыстычнаму беларусу» ўласцівыя працавітасць, сціпласць, лагоднасць. І, што радуе асабліва, нацыянальная цярпімасць. Як усё гэта данесці да сэрцаў і душ моладзі, як перадаць тое лепшае, што ёсць у нацыі? Зноў жа, прыслухоўваючыся да выпрацаванай стагоддзямі народнай методыкі.

Справа за тым, каб найлепшым чынам ведаць яе. Тут не абысціся без нейкага агульнага цэнтра, які ўзяў бы на сябе клопат аб вывучэнні, сістэматызацыі і пашырэнні векавога педагагічнага багацця, да таго незаслужана занядбанага. Размова на сустрэчы вялася аб стварэнні Асацыяцыі народнай педагогікі. А яшчэ — аб увядзенні спецкурсаў і спецсемінараў у педагагічных ВНУ, выпуску падручнікаў, арганізацыі мэтавых кафедраў. Праўда, апошняя прапанова трапіла пад крытыку: трэба, каб вышэйазначаная праблема стала клопатам не асобнай, а ўсіх кафедраў. І з гэтым, відаць, варта згадзіцца. Толькі б атрымалася. Толькі б не забыць зноў на доўгія гады.

Такое ўжо было. Да народнай педагогікі ўпершыню праявілі цікавасць у бурныя 20-я. Але спробы яе даследаваць не атрымалі падтрымкі нават у педагогаў-тэарэтыкаў. Толькі ў 50-я гады з'яўляюцца першыя этнапедагагічныя даследаванні. А першая сустрэча з практыкамі на Беларусі адбылася самі бачыце, калі.

Яшчэ параўнальна нядаўна на вёсцы бытаваў звычай. Калі дзіця ўставала на ногі, маці (ўмоўна, канечне) перараэала тую ўяўную нітку, якая звязвала яму ногі і не давала пайсці. Будзем і мы лічыць, што нітка перарэзана. Шчаслівай дарогі ў свет, народная педагогіка.

**Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ,**
**аглядальнік «Звязды».**






НА ЗДЫМКАХ: ● Ставіць манументы і помнікі тут не прынята — выключэнне зроблена толькі для вядомага педагога А. Макаранкі. ● У швейным цэху. ● Далей нельга. ● Чысціня — характэрная рыса любога ўчастка зоны. ● Ёсць тут даволі вялікая бібліятэка.

# ЗОНА




**Атрымаць дазвол на фатаграфаванне ў зоне сёння значна лягчэй, чым у мінулыя гады. Начальнік папраўча-працоўнай установы палкоўнік Анатоль Барысаў падкрэсліў, што сакрэтаў ад прэсы не мае і нават зацікаўлены, каб газета адвяла больш месца расказу пра жыццё ў зоне. Маўляў, трэба не толькі ведаць, якое пакаранне атрымлівае злачынца, але і бачыць, што за калючым дротам асуджаны не проста «есць дзяржаўную кашу»: ён працуе, мае магчымасць атрымаць сярэднюю адукацыю, сачыць за падзеямі ў грамадстве. Урэшце кожнаму хапае часу падумаць над сваім жыццём і змяніць яго.**

**Гэта папраўча-працоўная ўстанова звычайная па размерах і кантынгенту асуджаных. Тут адбываюць пакаранне за забойствы, згвалтаванні, аграбленні, крадзяжы і іншыя справы, на жаль, усё яшчэ нярэдкія ў нашым грамадстве. Сярэдні ўзрост яе насельнікаў блізкі да трыццаці гадоў. Расклад працоўнага дня не багаты перакурамі і мерапрыемствамі для адпачынку. Пад'ём у шэсць гадзін раніцы. Шэсць рабочых дзён праходзяць у цэхах, дзе вырабляюць мэблю, сядзенні для трактароў, веласіпедаў, матацыклаў, збіраюць нескладаныя вырабы з пластмасы. Сёмы дзень — адпачынак, на яго выпадае лазня, мыццё бялізны, уборка, кіно, бібліятэка.**

**Як сведчаць гандлёвыя арганізацыі, мэбля, выраблена ў зоне, карыстаецца добрым попытам з-за адносная таннасці і даволі высокай якасці. За мінулы год яе рэалізавана на 36 мільёнаў рублёў. Так што харчаванне, вопратку і жыллёвыя паслугі асуджаныя адпрацоўваюць.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**





ЗА РАДКОМ ДЗЯРЖКАМСТАТА

# Нашы гіганты— нас топяць...

**«Патрэбнасці рэспублікі ў прадукцыі чорнай металургіі пакрываюцца за кошт увозу з іншых дзяржаў СНД на 99 працэнтаў...»**

Такая лічба, у прыватнасці, прыводзіцца органамі дзяржаўнай статыстыкі. А цяпер возьмем іншыя лічбы: калі цэны на сырую нафту, газ, лесаматэрыялы, многія віды прадукцыі машынабудавання ў першым квартале ў параўнанні з першым кварталам мінулага года павялічыліся ў 5—15 разоў, то на прадукцыю чорнай металургіі—ажно ў 28. І, нарэшце, задумаемся: колькі ж у нашай рэспубліцы гэткіх свайго роду монстраў, гігантаў індустрыі, якія пажыраюць гэту самую прадукцыю чорнай металургіі?! Металу, і як мага больш, патрабуюць на шматлікіх станкабудаўнічых заводах, падшыпнікавых, БелАЗе, «Гомсельмашы»... Зададзім сабе і такое пытанне: што будзе з аддачай, эфектыўнасцю нашай працы, калі пры нязменных астатніх умовах сыравіна раптам падаражае ўдвая? Пытанне рытарычнае: вядома ж, мы атрымаем ад сваёй працы значна менш, чым атрымлівалі раней. Што, у прыватнасці, і адбываецца. Альбо трэба на адэкватную падаражанню сыравіны велічыню (каб толькі ўтрымацца на ранейшым узроўні) узнімаць пэўныя кампаненты эфектыўнасці — мяняць тэхналогіі, адпаведна павышаць цану (якая ўжо цяпер непад'ёмная для многіх спажыўцоў) на гатовую прадукцыю... Тэхналогіі ў нас вядомыя, рост цэн на «чорную металургію» — з аднаго боку і гатовую прадукцыю — з другога прыведзены вышэй... Нашы гіганты індустрыі, наш «гонар» ужо на першых рынычных кроках па сутнасці заганяюць нас у кабалу, павісаюць на нашай эканоміцы цяжкімі гірамі.

У той жа час у прамысловасці рэспублікі, якая, падкрэслім, у значнай ступені прадстаўлена менавіта металаёмістымі гігантамі, асабліва нічога не мяняецца. Няма адэкватнага рэзкага рэагавання вытворцаў на рэзкую змену сітуацыі. Тое ж падзенне аб'ёмаў, тыя ж цяперашнія хістанні — у агульным эканамічным «кантэксце». І ўсяго. У сувязі з гэтым напрошваюцца пытанні: ці мяняецца што-небудзь прынцыпова ў эканамічных адносінах, ці ёсць сапраўдны рух да рынку? Не, неабавязкова патрэбны банкруцтвы, якія, скажам, пракаціліся б пры падобным скачку цэн на сыравіну на заходнім рынку і якіх пакуль што не жадае прымаць наша ўтрыманская свядомасць. А вось змена прыярытэтаў, неадкладная структурная перабудова, якая, дарэчы, патрэбна ўжо толькі, каб хоць крыху аслабіць амаль поўную залежнасць вытворчасці рэспублікі ад прывазных рэсурсаў, урэшце, новыя, эканомныя тэхналогіі, якія забяспечвалі б зніжэнне металаспажывання, — гэта павінна быць абавязкова. Між іншым, тая ж статыстыка пацвярджае: пры павелічэнні аптовых цэн у першым квартале ў 11,9 раза прыбытак у цэлым па рэспубліцы ўзрос у 5,4. Новыя цэны на сыравіну і матэрыялы, якія завозяцца ў рэспубліку (і гэта не толькі прадукцыя чорнай металургіі), рэзка пагоршылі фінансавае становішча многіх прадпрыемстваў і арганізацый, увогуле ж — кожнага з нас, бо ўсё ў канчатковым выніку перакладваецца менавіта на нашу кішэнь.

Мы доўгі час цешыліся сваёй індустрыяльнасцю, якая насаджалася ў рэспубліцы, як у частцы адзінага народнагаспадарчага комплексу былога Саюза, без уліку яе рэсурсавых магчымасцей, без галоўнага крытэрыю ўсякай вытворчасці — яе выгаднасці, эканамічнай эфектыўнасці. Цяпер жа наша індустрыяльнасць і б'е нас. Так, існуе і павінен існаваць, нават пры цяперашняй палітычнай сітуацыі, пэўны падзел працы. І тым не менш у нармальнай рыначнай эканоміцы менавіта выгаднасць дыктуе свае ўмовы. Перш за ўсё.

Аднак што ж цяпер — «закрыць» усю індустрыю? Напэўна, у адносінах да многіх вытворчасцей, тым больш, калі ўлічваць іх крайнюю непаваротлівасць, рынак так і зробіць. Альбо істотна скароціць іх, што, дарэчы, ужо часткова і адбываецца. Возьмем той жа «Гомсельмаш», які напалавіну скінуў аб'ёмы. Але яшчэ раз варта падкрэсліць: многае залежыць ад саміх прадпрыемстваў, іх адэкватнага рэагавання. Улічваючы тое, што цэны на гатовую прадукцыю на сённяшні дзень, напэўна, дасягнулі ўжо свайго паталка, неабходны рэзкі ўздым эфектыўнасці, які нават перакрыў бы тое ж падаражанне сыравіны (між іншым, яна да апошняга часу каштавала для нас адносна танна). Але зноў пытанне: ці гатовы нашы гіганты да гэтага? І ці не зацягнуўся ў іх своеасаблівы перыяд нейкага чакання, хоць зразумела ўжо — лёгкага жыцця не будзе?

**Іван БАРАНОЎСКІ,**
**аглядальнік «Звязды».**

ЗЕМЛЯКІ З-ЗА АКІЯНА

# ДОЎГАЯ ДАРОГА ДАМОЎ

### ТРЫ ТЫДНІ І ЎСЁ ЖЫЦЦЁ ІРЭНЫ КАЛЯДА-СМІРНОЎ

Ірэне Каляда-Смірноў з амерыканскага горада Кліўленда (там жыве даволі вялікая калонія эмігрантаў з Беларусі) з паездкай на радзіму пашанцавала. Яна ляцела ў сваю Беларусь прамым авіярэйсам Нью-Йорк—Мінск. У чым жа яе шанцаванне, пацікавіцца чытач. А ў тым, што да самага апошняга часу самалёты да нас з Амерыкі, ды і з многіх іншых краін, не лёталі і ад нас, адпаведна, таксама. Як трэба, то, калі ласка, спачатку ў Маскву ці Ленінград. А там вядома, які сервіс: змардуешся ўшчэнт. Спадарыня Ірэна, аднак, не з тых, каго такія цяжкасці маглі спалохаць. Справа ў прынцыпе. Хоць душа ўся збалелася ад жадання наведаць Беларусь, убачыць сваякоў. Яна трымалася свайго: пакуль не будзе рэйса ў Мінск, то няма чаго і ляцець. Маўляў, няма там ніякіх змен. Але ж дачакалася, бо верыла ў іх.

Так што спадарыні Ірэне сапраўды пашанцавала. Усю доўгую дарогу над акіянам прагаварыла з пасажырамі, здзіўляючы іх перш за ўсё добрым веданнем беларускай мовы, а таксама незвычайным для сучаснага жыхара Беларусі пачуццём годнасці, гордасці за прыналежнасць да беларускага народа. Акрыленая, поўная пачуццяў, яна спусцілася з трапа, шукаючы вачамі сяброў, якія абяцалі сустрэць. Але нікога не было.

Няцяжка ўявіць, што перажыла жанчына за гадзіну чакання ў аэрапорце. Усё перадумала. Уявіце, чакаць сустрэчы доўгія дзесяцігоддзі і потым яшчэ цэлую гадзіну! Яна ж не ведала, што самалёты лятаюць па маскоўскім часе, а Беларусь жыве па сваім, мясцовым, які на гадзіну адрозніваецца ад маскоўскага. Але не будзем больш пра непрыемныя нечаканасці. Далей, дзякуй Богу, былі ў асноўным прыемныя.

### А ШТО НА ДУШЫ!

Звычайна, калі пішуць пра замежных гасцей-суайчыннікаў, адзначаюць іх любоў да Бацькаўшчыны, іх замілаванасць роднай прыродай. Безумоўна, нашы эмігранты, як і ўсе нармальныя людзі, любяць той край, дзе нарадзіліся. Як любяць маці, не зважаючы на тое, якая яна — маладая прыгажуня ці хворая, скалечаная. Але пачуцці іх ад сустрэчы з радзімай куды больш складаныя, чым проста радасць. А любоў — выпакутаваная, прайшоўшая многія выпрабаванні. Да таго ж, адносіны да бацькоўскай зямлі шмат у чым залежаць ад таго, пры якіх абставінах давялося пакінуць Беларусь.

Ірэна Каляда-Смірноў — чалавек няпростага лёсу. Знешне яркая, эфектная бландзінка. Дагледжаная. Прыгожа апранутая. У такіх, як яна, цяжка вызначыць узрост. Неяк нават не верыцца, што гэта дама родам з нашай вёскі, пакуль не загаворыць сакавітай, самабытнай вясковай мовай. Так, як размаўлялі ў яе хаце на Навагрудчыне.

Яна ніколі не бачыла свайго бацьку. Той памёр за некалькі месяцаў да нараджэння дачкі. Маці засталася ўдавою ў 29 гадоў. А ў 1939-м прыйшлі на Навагрудчыну Саветы і неўзабаве пачалі шукаць сярод жыхароў «ворагаў». І нямала, трэба сказаць, «адшукалі». Старэйшы брат Ірэны — Лявон быў захоплены беларушчынай, марыў атрымаць медыцынскую адукацыю і быць карысным для радзімы чалавекам. Падлеткам у час вайны ўступіў у Саюз беларускай моладзі. Маці таксама прысвяціла сябе беларускім справам. У 1944-м Ірэна разам з маці трапіла ў Нямеччыну, а брат, які застаўся ў Беларусі, пазней быў асуджаны за ўдзел у Саюзе беларускай моладзі, адсядзеў некалькі гадоў у турме, дзе страціў здароўе. Пра лёс Лявона Ірэна з маці не ведалі нічога аж да канца 60-х. Пісаць баяліся, каб не наклікаць якой кары на знаёмых і родных. Рызыкнулі ўсё ж пазней падаць аб сабе вестку. Брат, на шчасце, аказаўся жывы. Але час тады яшчэ не спрыяў іх сустрэчы. Беларусь немаведама за якія грахі адвярнулася ад сваіх грамадзян, як ад пракажоных. Трагедыя працягвалася.

### ЧАМУ ЯНА КОЖНЫ ДЗЕНЬ У ТЭАТРЫ!

Разважаючы пра лёс беларусаў, якія ў выніку тых ці іншых прычын апынуліся за мяжой і там пражылі свой век, я кожны раз задаю сабе пытанне: што набылі і што страцілі гэтыя людзі на чужыне і што з-за таго страціла Беларусь? З аднаго боку, нашы суайчыннікі, апынуўшыся ў еўрапейскіх краінах ці Амерыцы, здолелі эмабілізаваць усе свае сілы, каб упісацца ў іншае грамадства, дасягнуць пэўнага ўзроўню жыцця, які здаецца нам вельмі высокім. Жывуць, і праўда, няблага. Маюць свае катэджы, аўтамабілі, могуць падарожнічаць па розных краінах.

Ірэна Каляда-Смірноў, напрыклад, працавала ў офісе эканамістам. Хоць марыла зусім пра іншую кар'еру — артыстычную. Ад прыроды мела талент і неадольнае жаданне спяваць. Пасля гімназіі Янкі Купалы, якая дзейнічала ў Нямеччыне і якая паставіла яе на моцныя ногі беларушчыны, лёс звёў з кампазітарамі Куліковічам і Равенскім. Брала ў іх урокі вакалу, спявала ў царкоўным хоры, выконвала партыі ў беларускіх спектаклях, што ставіліся сіламі эміграцыі. Але стаць прафесіянальнай спявачкай Ірэна не змагла з-за шэрагу абставін, а ў асноўным з-за таго, што атрымаць адпаведную адукацыю ў Амерыцы даволі складана (лішні доказ таму — наш Данчык).

Тэатр, музыка і дагэтуль для Ірэны — нязбытная казка, нерэалізаваная мара, радасць і натхненне. Нездарма ж, ледзь прыехаўшы, наша госця адправілася на оперны спектакль. Званіць да Ірэны ўвечары было бяссэнсава—яна магла перамясціць любое мерапрыемства, толькі не тэатр.

Ну, дык што ж страціла Беларусь? Свае таленты, свае інтэлектуальныя сілы. Чужына не дала, на жаль, магчымасці рэалізавацца многім нашым суайчыннікам у мастацтве, у творчасці. І гэтыя духоўныя страты народ наш яшчэ доўга будзе адчуваць.

### «ЛЮБОЎ ПАВІННА БЫЦЬ ДЗЕЙНАЙ»

Госця з Амерыкі, напэўна, не врабіла для сябе вялікага адкрыцця, убачыўшы цяперашняе наша з вамі жыццё. Па-першае, перапісвалася з братам Лявонам, ды і ў Амерыцы даволі часта цяпер бываюць нашы людзі, расказваюць. І ўсё ж, у душы яе нешта перавярнулася пасля паездак па Беларусі, сустрэч з вяскоўцамі, з хворымі дзецьмі ў клініках і ў дзіцячых дамах. «Я не ўяўляла, што людзям тут так цяжка, — сказала яна аднойчы. — Я гатова аддаць усю сябе, каб толькі дапамагчы ім».

Прынамсі, ехала Ірэна ў Беларусь не толькі, каб убачыцца са сваякамі. Задоўга да паездкі абмяркоўвалі, як яны, беларускія эмігранты, могуць паспрыяць сваёй Бацькаўшчыне. Вырашылі сабраць грошы на лекі для хворых дзяцей. Некаторыя сем'і адправілі праз Ірэну паперы, што сведчаць аб іх намеры ўзяць на выхаванне дзетак з дзіцячых дамоў. Усё гэта вельмі складаныя пытанні, і Ірэна шмат часу прысвяціла вырашэнню такіх праблем. Хоць магла б замест усіх гэтых клопатаў і чужога гора, якое ўзваліла на свае плечы, мець тры тыдні прыемнага адпачынку.



НА ЗДЫМКУ: Ірэна КАЛЯДА-СМІРНОЎ з братам Леанідам у час сустрэчы ў Навагрудку.

Фота В. СТАВЕРА.

### ЧАЛАВЕК — НЕ ІГОЛКА Ў СТОЗЕ СЕНА

Позна ўвечары ў кватэры першага прарэктара Беларускай акадэміі мастацтваў, дацэнта Андрэя Каляды пачуўся званок.

— Скажыце, у вас жыве сястра ў Амерыцы?

— Не,—без ваганняў адказаў той.

— Вы не спяшайцеся, добра падумайце, — параілі на тым канцы.

— Ды што мне думаць, калі — не! — пачаў нават злавацца стрыманы ўвогуле выкладчык.

Андрэй Андрэевіч сапраўды быў перакананы, што не мае родных за мяжой, і ва ўсіх анкетах менавіта так і пісаў.

Ірэна ведала, што ў Мінску жыве стрыечны брат Андрэй, нават спрабавала яго адшукаць. Але безвынікова.

Андрэй Андрэевіч амаль штогод адзін ці з сястрой Нінай ездзіў да Лявона ў Навагрудак, хадзілі на могілкі, дзе пахаваны бацька Ірэны. Лявон ні разу не сказаў Андрэю, што мае перапіску з сястрой у Амерыцы. Палічыў, што так будзе лепш, бо Андрэй вядомы чалавек, — каб жа не нашкодзіць яму. Бо пісалі ж ужо Андрэю ананімныя пісьмы ў інстытут, дзе спяшаліся паведаміць кіраўніцтву, што ягоны бацька супрацоўнічаў з немцамі. Правяралі, высветлілі, што паклёп гэта. А тут сястра ў Амерыцы... Зноў пачнуць трэсці, падазраваць.

Можаце ўявіць, у якім разгубленым стане ішоў Андрэй Каляда на сустрэчу з жанчынай, якая назвалася яго сястрой. Моцна сумняваўся. А яна яму: «Ваша маці Саняй завецца, а сястра—Нінай, брат — Жоржам, а самі родам з вёскі Панямонь на Навагрудчыне...» Стаялі яны адзін супраць аднаго, разглядаючы незнаёмыя твары, шукаючы ў іх родныя рысы, і ніяк не маглі абняцца.

Пазней ужо, паехаўшы да гэтай самай бабы Сані, яны доўга разглядалі сямейны альбом, і Ірэна знайшла там сябе, Лявона, бацьку, маці. Высветлілася, што ў Ірэны ў Беларусі процьма сваякоў.

### З МАНАЛОГАЎ СУАЙЧЫННІЦЫ

— Моцна мяне ўсхвалявала паездка на Навагрудчыну, да брата. На кожную драбязу звяртала ўвагу, усё хацелася запомніць. Я ж маленькая была, калі мы з маці пакінулі свой дом. Дзіцячая памяць многае рамантызавала. Што мяне непрыемна здзівіла: прыгожыя, моцныя людзі жывуць у беднасці, амаль у галечы, побыт вясковы такі ўбогі. Аднак самі яны лічаць, што жывуць нармальна. Прыцярпеліся, змірыліся? Крыўдна за землякоў.

Там жа, у Навагрудку, калі хадзілі ў мясцовы краязнаўчы музей, я нечакана ўбачыла сярод экспанатаў пас з такім самым арнаментам, што ткала мая бабуля. Мяне як кальнула ў сэрца: а можа гэта і ёсць яе пас?

— З кім толькі ў Беларусі я ні сустракалася. Першае, гэта завезла лекі ў дзіцячы дом, падарункі. Цяпер тут усім цяжка, але дзецям найболей, бы ведаем, як хварэюць дзеці ад Чарнобыля, усяляк стараемся дапамагчы. Беларусы, якія жывуць у Кліўлендзе, ахвяравалі на гэту справу грошы, ды і амерыканцы не адмаўлялі. Будзем яшчэ старацца.

— Хадзілі з сябрамі па магазінах, глядзелі, што купляюць людзі... Увогуле жыць можна, калі маеш грошы, асабліва даляры. Але як гэта трэба выкручвацца тым, хто не мае даляраў, калі заробкі ў параўнанні з коштам тавараў проста мізэрныя...

— Некалькі разоў па справах я мела гутаркі з беларускімі парламентарыямі. І што вы сабе думаеце, я з імі — па-беларуску, а яны са мною— па-расейску. Ледзь тады стрымлівалася, каб не нагаварыць ім рэзкасцей. А напэўна ж трэба было. І ў самалёце, як ляцела, то гутарыла з пасажырамі на сваёй мове. Дык тыя ўсё дзівіліся, быццам гэта нейкі фенаменальны выпадак. А ў Амерыцы кожны, якой бы нацыянальнасці ні быў, ганарыцца сваёй мовай, шануе яе, узвышае.

— Буду ўсім расказваць, як святкавалі мы ў Мінску дзень 25 Сакавіка. Я слухала словы выступаўшых пра волю і незалежнасць, пра гонар беларуса і ледзь не заплакала, калі пачула «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», «Магутны Божа», якія выконвалі беларускія вайскоўцы. Напэўна ж, нешта перамянілася тут, калі ўжо спяваюць забароненыя раней «нацыяналістычныя» гімны.

Як мне здалося, нягледзячы на некаторы дыскамфорт, звязаны з бытавымі нязручнасцямі, стомленасцю ад паездак і сустрэч, Ірэна Каляда-Смірноў адчувала сябе ўсё ж няблага ў Беларусі. «Свая зямля і ногі грэе», — сказала яна. Дарэчы, нават боты свае мадэрновыя тут пакінула — прымусіла нацягнуць іх амаль незнаёмую жанчыну ў вёсцы, на нагах у якой было нейкае страхоцце.

...Ледзь адпачыўшы пасля вяртання ў Кліўленд, Ірэна тэлефанавала ў Мінск: «Усё о'кэй, але сумую па вас...».

**Таццяна АНТОНАВА.**

